# Бацькаўшчына



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN «LA PATRIE» | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 45 (327) | Нядзеля, 4 лістапада 1956 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Гарыць за зялезнай заслонай

Сяньня яшчэ немагчыма гаварыць аб тым, чым кончыцца антыкамуністычнае паўстаньне ў Мадзяршчыне, ані якія будуць ягоныя вынікі. Гэтаксама і ў Польшчы, дзе сытуацыя ўжо, здавалася-б устабілізавалася, могуць паўстаць яшчэ розныя неспадзеўкі. Зусім магчыма, што і ў іншых сатэлітных краінах зактывізуюцца антыкамуністычныя рухі. У мамэнт пісаньня гэтага артыкулу (27. 10. 1956) сталася ведамым, што і ў усходнім Бэрліне нямецкія студэнты пачалі дамагацца дымісіі камуністычнага дыктатара Ўсходняй Нямеччыны Ульбрыха. Дык калі гэты артыкул дойдзе да чытача, падзеі могуць прыняць зусім іншы кірунак і выліцца ў непрадбачаную сяньня форму. Таму задзержымся тутака толькі на тых аспэктах выпадкаў за зялезнай заслонай, якія, навет пры зусім іншым абароце справаў, ня страцяць на сваёй актуальнасьці.

Антыкамуністычнае паўстаньне за залезнай заслонай ёсьць найбольш вымоўным і незапярэчным довадам, што цана свабоды і імкненьне да яе прывярненьня, калі яна заграбленая варожымі сіламі, ня ведае ніякіх межаў. Маскоўскі бальшавізм, прыйшоўшы да ўлады 39 год таму назад на тэрыторыі былай Расеі, за ўвесь гэты час ня змог ператравіць паняволеныя ім народы, як і ня змог таксама выкараніць сярод іх нацыянальных асьпірацыяў. Дык што-ж тады гаварыць пра народы Сярэдня-Ўсходняе Эўропы, якія падпалі пад бальвіцкае панаваньне толькі ў выніку апошняе сьветавае вайны і якія, будучы перад гэтым дзяржаўна незалежнымі, мелі да найвышэйшай ступені разьвіты свой нацыянальны патэнцыял і свой апрычоны спосаб палітычнага, сацыяльнага, эканамічнага й грамадзкага жыцьця? Толькі зялезныя абцугі Сталіна маглі трымаць гэтыя народы ў сваіх войстрых клешчах. Затое г. зв. калектыўнае кіраўніцтва Хрушчова-Булганіна, ня гледзячы на розныя тактычныя эквілібрыстыкі, якімі імкнулася захаваць расьхістаную сыстэму, як асуджэньне Сталіна й пераход да ленінізму або завядзеньня курсу палітычнае адлігі, не патрапіла ўжо справіцца бесьперашкодна прадаўжаць справы памерлага дыктатара.

Такім чынам апошнія падзеі за зялезнай заслонай зьяўляюцца беспасярэднім вынікам аслабленьня савецкае сыстэмы й завайстрэньня непераможных у ёй супярэчнасьцяў.

У рэвалюцыйных рухах у Польшчы й Мадзяршчыне адбываецца сьмяротны розыгрыш паміж трымя рознымі і ўзаемна варожымі сіламі. Адною з гэтых сілаў зьяўляецца Масква, якая за ўсякую цану намагаецца ўтрымаць там статус кво, г. зн. стан, што існаваў дагэтуль. Другой сілай зьяўляюцца г. зв. мясцовыя цітаістыя, якія, падобна як і югаславянскі Ціта, хацелі-б ісьці собскімі дарогамі да сацыялізму, адменнымі чымся Савецкі Саюз. Трэйцяя сіла — гэта тая, што ня хоча ніякімі дарогамі ісьці да сацыялізму. Гэта паняволеныя народы краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, якія імкнуцца поўнасьцю адарвацца ад Масквы й вярнуцца да вольнага незалежнага жыцьця, якім яны жылі перад савецкім паняволеньнем.

Галоўнымі рэпрэзэнтантамі й сымбалямі гэтае другое сілы ёсьць у Польшчы выпушчаны з даўгалетнае турмы й узьведзены на становішча першага сакратара польскай камуністычнай партыі Уладыслаў Гамулка. а ў Мадзяршчыне — таксама нядаўні вязень, а цяпер рэгабілітаваны й абдораны становішчам прэм'ера Нагі. І адзін і другі заўдзячваюць сваю рэгабілітацыю трэйцяй сіле. Масква, каб зьменшыць незадаваленьне народных масаў і ратаваць падупалы аўтарытэт камуністычнага рэжыму гэтых краінаў, выпускае іх на волю, рэгабілітуе й даручае ім кіраўнічыя партыйныя й урадавыя становішчы. Гэтую дзіўную сытуацыю ў дачыненьні да Гамулкі вельмі добра сфармуляваў нямецкі тыднёвік «Die Zeit» № 43 за 25. 10. 1956), пішучы:

«Новы шэф партыі Ўладыслаў Гамулка жыве ў падвойнай залежнасьці ад ласкі сваіх ворагаў. Сваіх нутраных ворагаў ён патрабуе ў якасьці саюзьнікаў супраць Масквы, а ягоныя маскоўскія ворагі бароняць яго перад рэвалюцыяй унутры краіны, якая таксама яго зьнішчыла-б».

У выпадках у Польшчы й Мадзяршчыне не апошнюю ролю адыйграў і югаславянскі Ціта. Аднэй зь перадумоваў ягонага апошняга зьбліжэньня да Масквы было вытарграваньня ад апошняй прызнаньня для ўсіх сатэлітных краінаў «собскіх дарог да сацыялізму», а ня толькі для Югаславіі. У сувязі з апошнімі выпадкамі ў Польшчы й Мадзяршчыне сяньня ўжо сталася зусім ясным, што гэтая справа была адным з пунктаў нядаўнае тайнае нарады Ціты з Хрушчовам, якая спачатку адбывалася ў Югаславіі, а закончылася ў Ялце ў Савецкім Саюзе. Тады адразу пасьля павароту Ціты зь Ялты ў Белград, адбылося зьбліжэньне між Югаславіяй з аднаго боку, а Польшчай і Мадзяршчынай з другога, канкрэтнай азнакай якога былі адведзіны Ціты ў Белградзе камуністычнымі кіраўнікамі Польшчы й Мадзяршчыны.

Дыктатар малой і адсталай краіны Ціта, дзякуючы хітрай ігры і ўмеламу лявіраваньню, стаўся з часам дзяржаўным мужам зь якім сур'ёзна пачаў лічыцца і Савецкі Саюз, і заходнія вялікадзяржавы. Упоены сваімі сукцэсамі, ён зажадаў стацца правадыром усіх сатэлітных краінаў, што магло-б быць дасягнутае толькі ў тым выпадку, калі-б гэтыя краіны аслабілі сваю залежнасьць ад Масквы і пайшлі, падобна як і ён, «собскімі дарогамі да сацыялізму». Таму з дасюлешняга разьвіцьця падзеяў у Польшчы Ціта павінен быць задаволены, затое падзеі ў Мадзяршчыне пайшлі далей ягоных зычэньняў. У кажным выпадку Ціта ёсьць камуністым, і яму было-б не на руку. калі-б мадзярскае паўстаньне, мэтай якога ёсьць вызваленьне ад кажнай формы камунізму, укаранавалася пасьпехам.

Ня гледзячы на аднолькавыя прычыны й характар падзеяў у Мадзяршчыне й Польшчы, пайшлі яны ў кажнай краіне рознымі шляхамі.

У Польшчы пачалася ад нядаўняга пазнанскага паўстаньня й пазьнейшых антыкамуністычных маніфэстацыяў падчас судовага працэсу супраць удзельнікаў гэтага паўстаньня. У сувязі з гэтымі непрадбачанымі выпадкамі ў польскай кампартыі дайшло да палацовага перавароту, у выніку якога Гамулка стаўся яе першым сакратаром. Калі-ж новыя партыйныя кіраўнікі пайшлі задалёка «собскай дарогай да сацыялізму» ды пачалі ўзапраўднасьці ўнезалежнівацца ад Масквы, а ейнага галоўнага стаўленіка ў Польшчы маршала Ракасоўскага навет выкінулі з палітбюра партыі, у Варшаву раптоўна прыляцеў сам Хрушчоў у таварыстве Молатава, Кагановіча, Мікаяна й Конева. Крэмлёўскія верхаводы паявіліся ў Польшчы ўжо не як прыяцелі такіх-жа камуністычных верхаводаў у Варшаве, але як іх каральнікі, а Хрушчоў навет не падаў Гамулку рукі. Адначасна аддзелы савецкай арміі пачалі машыраваць у кірунку польскай сталіцы. Гэтым Масква наяўна паказала, што «собская дарога да сацыялізму» можа пакуль што быць толькі для Югаславіі, але не для Польшчы. Але калі Гамулка адмовіўся гутарыць з крэмлёўскімі кіраўнікамі, пакуль ня будзе спынены паход савецкіх вайсковых часьцяў у Польшчу, ягонае жаданьне было выкананае. Гэта й сталася галоўнай прычынай, што да збройнага паўстаньня ў Польшчы не дайшло, сытуацыя пачала ўстабілізоўвацца, партыя й урад прыабяцоўваюць далёкайдучую дэмакратызацыю ўсіх галінаў жыцьця ў краіне. Савецкае радыё й прэса, якія перад каносай Хрушчова з таварышамі ў Варшаву кідалі

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# «Жандар Эўропы»

«Прыблуды з-над Нявы крывавай,
Калі-ж апомніцесь, калі?»

**Я. Купала**

Сто восем гадоў таму на вуліцах Будапешту гучэла песьня вызваленьня «Тальпра, Мадзяр!» (Паўстань, Вугорац!) Ляёс Косут, нацыянальны герой Вугоршчыны вёў маладых змагароў на змаганьне за поўную незалежнасьць свайго краю, які дагэтуль быў часткай вялікае Габсбурскае імпэрыі. Мроі вугорскіх патрыётаў ставаліся рэчаіснасьцяй — яны перамагалі. Ува ўсёй Вугоршчыне запанавала радасьць адбываліся Багаслужбы з падзякай Усемагутнаму за прынесеную свабоду й незалежнасьць. Але тады на дапамогу аўстрыйскаму манарху пасьпяшыў «жандар Эўропы» — Расея. Князь Паскевіч із стотысячнай арміяй уварваўся ў Вугоршчыну й пачалася бязьлітасная крывавая расправа, расправа, на якую толькі здольны гэты жандар. У моры крыві была затопленая воля вугорскага народу, а кат гэтае расправы Паскевіч дакладваў свайму імпэратару: «Вугоршчына пад вашымі нагамі . . .»

Гэта было сто восем гадоў таму. І ці-ж гэта ня ірония гісторыі, калі ў мінулым тыдні йзноў палілася кроў на вуліцах Будапэшту, калі крывавы жандар Эўропы йзноў пачаў чыніць расправу над вугорскімі патрыётамі. Заместа царскіх какардаў гэтым разам былі чырвоныя зоркі, сутнасьць-жа — тая самая. «Прэч Расейцаў!» — падалі лёзунгі з вуснаў студэнтаў, работнікаў, жаўнераў . . .

Чаго яшчэ ня могуць зразумець вялікія гэтага сьвету, «экспэрты»-дыплёматы, зразумеў аднак просты народ і выклаў гэта ў двух словах — «Прэч **Расейцаў!»**

Зразумела розныя эміграцыйныя расейскія «галасы» й падгалоскі йзноў пачнуць скардзіцца на сваю долю, што паняцьце «Расеец» тут сьведама скрыўляецца, што Расейцаў робяць адказнымі за праступствы камунізму і г. д. Аднак трагічная гістарычная паралель — падзеі 1848/49 і 1956 г. — гаворыць сама за сябе.

У разважаньнях бальшыні Расейцаў ёсьць дзіўны камплекс супярэчнасьцяў. Аб разьдзеле імпэрыі на нацыянальныя дзяржавы яны і слухаць ня хочуць: Расея — адзіная, непадзельная. Калі-ж гэтая «непадзельная» робіць крывавыя праступствы — дык Расейцы тут ня вінаватыя, бо, бач, у імпэрыі-ж ня толькі Расейцы . . . Дык хто-ж тады вінаваты, гаспада!? Можа Беларусы, Украінцы, Каўказцы? Яны-ж маглі быць і ў арміі крывавага Паскевіча, і напэўна былі цяпер у танкавых савецкіх дывізіях у Вугоршчыне. Але не забывайцеся таксама, што і іхную свабоду й незалежнасьць зьнішчыў той самы жандар Эўропы, які чыніў расправу ў Будапэшце. Эпізоды брутальнае заваёвы Каўказу, віленскія вісельні ці разьня ў Празе — гэта нічога іншага, як адзіны суцэльны ланцуг дзікіх праступстваў расейскіх «доблестных полководцев».

Мы ніколі ня лічылі й ня лічым, што за ўсе гэтыя праступствы адказны расейскі ці, як цяпер, савецкі жаўнер. Гэтаму жаўнеру, Івану ці Грышку, напэўна непатрэбныя ніякія заваёвы ў імя нейкае місіі, аб якой яму ўвесь час гавораць. Корань зла ляжыць у самым расейскім імпэрыялізьме, ці больш канкрэтна — у носьбітах гэтага імпэрыялізму — расейскіх вялікадзяржаўных шавіністых. Няважна, якога колеру гэты імпэрыялізм а важна ягоная сутнасьць. А таму няма ніякага дзіва дый зусім лягічна, калі ў выніку даходзіць да клічу «Прэч Расейцаў!»

Калі Расейцы хочаць даводзіць, што ў панявольваньні іншых народаў яны ня вінаватыя, што віна падае на бальшавіцкую сыстэму, дык мы папытаемся, хто-ж вінаваты ў панявольваньні ў дарэвалюцыйныя часы, калі гэтае сыстэмы яшчэ ня было? Бальшавікі-ж тут нічога новага не адкрылі, а толькі больш распрацавалі й «зрацыяналізавалі» старое традыцыйнае жандарства ды «турму народаў» пашырылі шляхам паняволеньня яшчэ колькіх, незалежных да гэтага часу, дзяржаваў. Агідную ролю расейскага традыцыйнага дзяржымордніцтва вельмі добра прадставіў расейскі гісторык Пакроўскі ў наступных словах: «Расейскую імпэрыю называлі «турмой народаў». Мы знаем цяпер, што гэтага назову заслужывала ня толькі дзяржава Раманавых, але й яго папярэдніца, вотчына патомкаў Каліты. Ужо маскоўскае вялікае княства, ня толькі маскоўскае царства, было «турмой народаў». Вялікарасея пабудаваная на касьцях «инородцев», і наўрад ці гэтыя апошнія шмат пацешаныя тым, што ў жылах вялікарасейцаў цячэ 80% іхнай крыві . . .» (М. Н. Покровский. Русская история с древнейших времен, т. I, б. 249).

Такім чынам, чэсны Расеец мусіць быць нарэшце кансэквэнтным: або стаць на справядлівы шлях пашанаваньня волі ўсіх народаў і згадзіцца на іхную незалежнасьць, якая ў цягу гісторыі была зьнішчана Расеяй, або трымацца далей за «адзіную недзялімую», прадоўжваць традыцыю брутальнага дзяржымарды, з тым, што ня мае тады маральнага права патрабаваць для сябе пашаны й сымпатыі. Заслужаная мянушка «жандара Эўропы» будзе тады й надалей адказваць праўдзе.

**А. Галубіцкі**

# Мітынг Вугорцаў у Мюнхэне

**У сувязі зь гераічным змаганьнем вугорскага народу за сваю незалежнасьць, Цэнтральны Камітэт вугорскай эміграцыі зарганізаваў 29-га кастрычніка гг. мітынг сваіх суродзічаў ў Мюнхэне.**

**Апрача саміх Вугорцаў, на мітынгу прысутнічала шмат Немцаў (пераважна ўцекачоў з Вугоршчыны), эмігрантаў зь іншых паняволеных бальшавізмам краёў, а таксама шматлікія прадстаўнікі нямецкага палітычнага жыцьця**

**З асноўнай прамовай выступіў прафэсар тэалёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту а. Уладыслаў Варга, які выразіў падзяку як нямецкаму народу гэтак і ўсяму вольнаму сьвету за шчырыя спачуваньні й канкрэтную матар'яльную падтрымку для пацярпеўшых у гэтым трагічным змаганьні.**

**Трэба адцеміць таксама гарачую прамову прадстаўніка нямецкіх эмігрантаў з Вугоршчыны сп. Гайнрыха Райтынгера. Ён зьвярнуў увагу прысутных, што сяньняшняе змаганьне гераічнага вугорскага народу мае значэньне ня толькі для самых Вугорцаў: рэха гэтага змаганьня адгукнецца і ў іншых паняволеных Расейскай імпэрыяй краінах ды заважыць на далейшай долі наагул усяго сьвету.**

**Колькасьць прысутных на мітынгу, што перавысіла тысячу чалавек, як найлепш сьветчыць аб поўнай салідарнасьці й глыбокай сымпатыі для вугорскага народу з боку як нямецкага так і эміграцкага грамадзтва Мюнхэну.**

# За мінулы тыдзень

(пс)

«. . .Ня хочам спачуваньняў,
ні вашых захапленьняў —
Дайце нам АМУНІЦЫІ !!!»

Гэта трагічнае мотто, набалелы рэфрэн, крывавы лейтматыў зваротаў усіх народаў, якія ўжо амаль 40 год змагаюцца за сваю незалежнасьць, свабоду і правы на сваё собскае жыцьцё. І гэты крык не знаходзіць ані рэха, ані рэзанансу ў душах «моцных гэтага сьвету». Гіне, як камень у бяздоннай твані. . .

Цяпер да гэтага дайшло як-жа распачлівае і трагічнае запытаньне вугорскіх змагароў:

**«Чаму нам ніхто не памагае?!»**

Ужо амаль тыдзень трывае вайна паміж вугорскім народам і Расейскай імпэрыяй. У заходняй прэсе мы бачым жудасныя фатаздымкі з вуліцамі засланымі трупамі. Штодзень чытаем макабрычныя справаздачы, як савецкія войскі расстрэльваюць у Вугоршчыне ня толькі паўстанцаў і дэманстрантаў, але жанчын і дзяцей. Штодзень прэса не шкадуе моцных словаў, як напрыклад: «Бальшавікі робяць крывавую лазьню Вугорцам», «вуліцамі Будапэшту ракой плывець кроў» і т. п. Аднак да гэтага часу ніхто не здабыўся на цьвёрдае слова пад адрасам забойцаў, ніхто ім ня крыкнуў: «Спыніце вашы злачынствы!» І хіба ня скажа. . .

Праўда, у нядзелю ў Нью Ёрку сабралася дзесяць джэнтэльмэнаў і адзін Собалеў на гэтак званую Раду Бясьпечнасьці АЗН. Праўда, джэнтэльмэны гаварылі, што «бальшавікі бяспраўна распачалі вайсковую інтэрвэнцыю», што «яны парушылі» нейкі варшаўскі пакт і нейкую «мірную ўмову» (як быццам-бы бальшавікі не зламалі дзясяткаў пактаў і не стапталі сотняў умоваў. Усё гэта зусім не пашкодзіла таварышу Собалеву і не перашкодзіла яму пасьля ўсіх гэных гаворак устаць і пахамску насабачыць гэтым джэнтэльмэнам ды абвінаваціць іх у тым, што ў Вугоршчыне ліецца кроў і гінуць людзі. Джэнтэльмэны, як джэнтэльмэны, якія знаюцца на «бонтон» і «бон мот» — выслухалі ўсе хамствы савецкага прадстаўніка, ветліва раскланяліся і разыйшліся, засьцерагаючы сабе права зыйсьціся ізноў і без дазволу тав. Собалева. Думаем, ізноў зьбяруцца і ізноў ім Собалеў, бязь іхнага дазволу расставіць радню па ўсіх куткох. А ў Вугоршчыне ліецца кроў і гінуць тысячы людзей. . .

Праўда, увесь сьвет адгукнуўся на трагэдыю вугорскага народу. Адусюль плывуць ахвяры: мэдыкамэнты, харчы, вопратка, грошы. Цэлыя санітарныя цягнікі ідуць на граніцы Вугоршчыны. Тысячы людзей ахвяроўваюць сваю кроў для вугорскіх раненых змагароў. Фактычна і практычна ўжо Аўстрыя зламала сваю нэўтральнасьць, бо адчыніла свае граніцы для паўстанцаў.

Але гэтага ўсяго замала, каб перашкодзіць бальшавіком у запраўднасьці заліць Вугоршчыну крывёй. Жудасная здань «жандара Эўронпы» — Мікалая Палкіна — аджыла.

Цяпер, калі мы гэта пішам, прыходзяць весткі, што быццам-бы савецкія войскі маюць адыйсьці на даўнейшыя становішчы, што вугорскі ўрад загадаў сваім жаўнерам зьняць з шапак чырвоныя зоркі і што вяртаюцца вугорскія нацыянальныя эмблемы ды што зьнесена слова «таварыш». Шмат чаго яшчэ абяцае вугорскі ўрад Надзя Вугорцам, каб залагодзіць народны гнеў. Што ён датрымае, у чым ашукае — сяньня зарана прадбачыць. Чырвоныя зоркі можна дазволіць зьняць, але і можна пасьля загадаць прычапіць іх ізноў. Важнае, каб савецкая армія адыйшла за Дон і за Смаленск, а ня толькі пару кілямэтраў за Мішкольц.

Аднак трэба змусіць маскоўскіх сатрапаў, каб гэта зрабілі.

Савецкі маналіт моцна парысаваўся, але трэба. . .

Праўдападобна хутка ізноў у Нью Ёрку зьбяруцца дзесяць джэнтэльмэнаў і адзін Собалеў. . .

*

Гэта наш агляд зь мінулага тыдня, зь мінулага году, зь мінулых гадоў. . .

# Аб тэндэнцыйнасьці савецкай гістарычнай навукі

У савецкай гістарычнай навуцы шмат адведзена месца дасьледваньню старадаўняй гісторыі ўсходніх славянаў і, перадусім, гісторыі Кіеўскай Русі. Аднак гэтае зацікаўленьне гісторыяй больш мае палітычную падкладку чымся навуковую. Абумоўлена яно двума матывамі: з аднаго боку імкненьнем паказаць вонкаваму сьвету гістарычна абаснаваную традыцыйнасьць магутнасьці Савецкага Саюзу, ягоную самабытнасьць дзяржаўнага й культурнага разьвіцьця, і з другога — угаварыць народам Савецкага Саюзу іхнюю гістарычную супольнасьць. Сюды ўваходзіць тэндэнцыя паказаць даўнасьць карэньняў «аднае рускае народнасьці» ў трох асобах расейскага, беларускага й украінскага народаў, а разам і іхнюю даўнасьць дзяржаўнае супольнасьці; паказаць традыцыйную сувязь гэтае ўсходня-славянскае дзяржавы зь іншымі народамі Савецкага Саюзу; і, нарэшце, паказаць неразрыўнасьць гістарычнага працэсу ў дзяржаўным разьвіцьці цяперашняе чырвонае расейскае імпэрыі, запачаткаванага быццам-бы яшчэ зь сівых часоў Кіеўскае Русі.

Гэтак з вышэй названых матываў была адкінута нармандзкая тэорыя, згодна каторае ўтварэньне кіеўскае дзяржавы прыпісвалася прышэльцам нарманам, ці, як іх называлі ў той час, скандынаўскім варагам-русам. Гэтая тэорыя, прытым абаснаваная на старадаўніх кіеўскіх і бізантыйскіх пісаных крыніцах, адкідаецца толькі таму, што яна нібы зьмяншае ролю ў гісторыі самых славянаў. На яе месца прыходзіць новая тэорыя самабытнасьці паўстаньня славянскае дзяржавы на Ўсходзе. Нарманы, калі яны й былі ў гэтай дзяржаве, яны ня ігралі ніякае дзяржаўнае ролі. Гэта былі наёмныя дружыны вайскавікоў ці проста гандляры. Кіеўская Русь, падразумляваецца як сцэнтралізаваная дзяржава, што абыймала ўсе ўсходнеславянскія плямёны, была ўтворана стыхіяй самабытнага гістарычнага працэсу славянаў, запачаткаванай яшчэ ў часы імпэрыі антаў (IV стагодзьдзе нашай эры). Кіеўская Русь часоў IX—XI стагодзьдзяў была адным з этапаў гістарычнага працэсу дзяржаўнага разьвіцьця, больш удасканалай народна, культурна й палітычна. Што да назову «Русь», «рускі», дык ён быў запазычаны ў ваднаго больш магутнага і ўплывовага славянскага племя росаў, жыўшага на ўсход ад Кіева на рэчцы Рось.

Разам з гэтым даказваецца таксама існаваньне ўжо ў тыя часы аднае ўсходнеславянскае народнасьці — рускае народнасьці. Аднак тут пярэчаць дадзеныя зь дзясятага стагодзьдзя пра існаваньне як з адменнымі назовамі плямёнаў, таксама і самастойных княстваў, прыкладам Полацка-Тураўскага княства, больш-менш незалежных ад Кіева драўлянаў, радзімічаў і вяцічаў. Бяручы гэта пад увагу, савецкія гісторыкі перасоўваюць, такім чынам запачаткаваньне феадальных укладаў у ўсходніх славянаў на два стагодзьдзі назад, г. зн. з XI стагодзьдзя на IX-ае. Такая камбінацыя дае, прынамся, падставы гаварыць аб тым, што адасабленьне некаторых земляў ад цэнтру было якраз рэзультатам феадалізму, рэгіянальнай узурпацыяй дзяржаўных правоў, а не натуральным, нічым нязьвязаным імкненьнем да самастойнага жыцьця паасобных плямёнаў ці групаў плямён. Феадальная раздробленасьць, а потым татарскія і летувіскія заваёвы спрычыніліся, такім чынам, да расшчапленьня старое рускае народнасьці, складзенае яшчэ ў VII—VIII стагодзьдзях, і да зародку трох новых народнасьцяў: вялікарускай ці расейскай, беларускай і ўкраінскай. Аднак гэта былі штучныя народнасьці, што паказвае іхні далейшы гістарычны працэс, пайменна супольнасьць культуры і імкненьняў жыць у ваднэй сям'е.

Адначасна адмаўляецца рэальнасьць уплываў бізантыйскае культуры на культурнае разьвіцьцё ўсходніх славянаў, а таксама шукаецца наяўнасьці традыцыйных дзяржаўных сувязяў усходніх славянаў з другімі славянскімі і неславянскімі народамі. Гэтай тэматыцы пасьвяціў шмат працаў акадэмік Б. Грэкаў, а таксама і іншыя савецкія гісторыкі. Апошнім часам занялася вывучэньнем гэтае праблемы савецкая археалёгія. Гэтак на пэрыфэрыях Савецкага Саюзу ўсюды працуюць этнічна-археалёгічныя экспэдыцыі. На Беларусі, у сувязі з праблемай балтыйскіх народаў, археалёгічным дасьледваньнем падпадае сумежная паласа, пачынаючы ад Полацку і канчаючы Горадняй.

Падобная тэндэнцыйнасьць савецкае гістарычнае навукі прыводзіць, ведама, да хвальшаваньня гісторыі народаў. Прыкладам, адмаўляецца якая-колечы самабытнасьць гістарычнага працэсу беларускага народу. Незалежнасьць беларускіх княстваў ад Кіева, як Полацка-Тураўскага часоў Рагвалода (другая палова 10 стагодзьдзя), Полацкага княства ў XI—XII стагодзьдзях, разглядаецца простым феадальным разрывам мясцовых князёў, самавольным выхадам спад улады Кіева. Наагул-жа і аб гэтых фактах найменш гаворыцца ў савецкай гістарычнай навуцы. Каб заняцца навуковым вывучэньнем і абгрунтаваньнем гэтых «самавольных выхадаў», трэба было-б успомніць таксама аб апрычоным назове беларускіх княстваў, пайменна гаварыць аб іх, як аб крывічах, а ня «рускіх», што падкрэсьліваюць заўсёды пісаныя крыніцы, высьніць прычыннасьць пастаянных войнаў беларускіх княстваў зь кіеўскімі князямі, а таксама ўзяць пад увагу маленькі фактар вынішчэньня кіеўскімі князямі родаў беларускіх князёў, як гэта было з родам Рагвалода ў васьмідзясятых гадох X стагодзьдзя, іхнюю высылку за межы свае бацькаўшчыны, як гэта здарылася ў 1067 годзе зь князем Усеславам Чарадзеем і ягонымі сынамі, ці было месца пасьля крывавае вайны 1127—30 гадоў, калі па заняцьцю тэрыторыі Беларусі ўсе беларускія князі разам зь сем'ямі былі праданыя Кіевам у няволю бізантыйскаму імпэратару. Відавочна тут былі глыбейшыя прычыны ў імкненьні да самастойнага жыцьця беларускіх земляў, чым узурпацыя паасобнымі князямі цэнтральнае ўлады. Ні рэпрэсіі супраць паасобных князёў, ні рэпрэсіі супраць насельніцтва не маглі паўстрымаць гэтага імкненьня. Яны, наадварот, толькі больш распальвалі нянавісьць народу да заваёўнікаў, аб чым гавораць кароткатрывалыя панаваньні на беларускіх землях кіеўскага цэнтру. Самі-ж крывавыя рэпрэсіі і бесьперапынныя войны Кіева зь беларускімі княствамі сьветчаць, ведама, не аб адчуваньні народнае супольнасьці і не аб імкненьні да супольнага жыцьця, але аб другім, што называецца сьведамасьцю свае апрычонасьці і воляй жыць самастойна.

Гэта ці ўдасца захаваць савецкай гістарычнай навуцы. **П. У.**

# За ахову беларускае гісторыі

Менскае радыё 20 кастрычніка паведаміла аб зьмешчаным у газэце «Літаратура і Мастацтва» пісьме шэрагу навукоўцаў, пісьменьнікаў і артыстых Беларусі, у якім яны заклікаюць да аховы помнікаў беларускае культуры.

У пісьме гаворыцца:

«Беларускі народ за сваю шматгадовую гісторыю стварыў багатыя скарбы ў галіне архітэктуры, малярстве, скульптуры і іншых відах мастацтва. Гэтае мастацтва расказвае нам аб жыцьці й барацьбе народу, аб ягонай працавітасьці й гераізьме.

«На вялікі жаль, пераважная колькасьць помнікаў беларускае культуры загінула ў часе шматлікіх войнаў, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі. А шмат было зьнішчана ў пэрыяд панаваньня на Беларусі польскіх паноў. У выніку гэтага, у нас захавалася вельмі нязначная частка помнікаў культуры. Не захавалася ў Беларусі ніводнага жылога будынку, а таксама ніводнага драўлянага збудаваньня ўзьведзенага раней за XVI ст. Зьнішчана пераважная большасьць твораў нарднае разьбы па дрэве, багата аформленых кніг, выдадзеных у беларускіх друкарнях у XVI—XVIII ст. ст. твораў малярства, скульптуры й народнае творчасьці. Нашы музэі бедныя экспанатамі беларускае культуры дасавецкага пэрыяду. Мы вельмі слаба ведаем сваё мінулае, сваю старажытную й сярэднявяковую культуру. Усё гэта забавязвае нас старанна зьбіраць, беражліва захоўваць і ўважліва вывучаць помнікі беларускае культуры. Між тым, работа над аховаю помнікаў старажытнасьці пастаўлена ў нас вельмі дрэнна. Да гэтага часу ня складзена поўнага сьпісу помнікаў, якія падлягаюць ахове дзяржавы, не наладжана кантроль за тымі помнікамі, якія знаходзяцца пад аховай, не праводзіцца работы над іх рамонтам і рэстаўрацыяй».

# У паняволенай Беларусі

## РАДЫЁ — МЕНСК ПАВЕДАМЛЯЕ:

### Зарабляюць на фэстываль

(15. 10. 56) Для моладзі шмат якіх прадпрыемстваў і ўстаноў Бабруйску учарашняя нядзеля была звычайным працоўным днём. Зь ініцыятывы камсамольскай арганізацыі вось ужо трэці месяц у свабодны ад асноўнай работы час хлапцы й дзяўчаты працуюць на будаўніцтве маста цераз раку Беразіну. Выручаныя грашовыя сродкі адлічваюцца ў фонд фэстывалю моладзі.

Учора ў фонд фэстывалю аддалі свой выхадны дзень студэнты лясного тэхнікуму, пэдагагічнага вучылішча і вучні шмат якіх школаў...

☆

### Расейшчына

(15. 10. 56) У парадку падгатоўкі да ўсесаюзнага фэстывалю моладзі ў Магілеве адкрыўся лекторый па пытаньнях мастацтва. Учора ў клюбе промкаапэрацыі адбылася першая лекцыя: «Масавая савецкая песьня». Да канца году будуць праведзены лекцыі на тэмы: «Вялікі **рускі** кампазытар Глінка», «**Рускія** рэвалюцыйныя песьні», «Жыцьцё і творчасьць **Мусоргскага»**, «Выдатны **рускі** кампазытар Чайкоўскі»...

Лекцыі ілюструюцца выступленьнямі мастацкае самадзейнасьці й дэманстрацыяй дакумантальных і навукова-папулярных фільмаў.

☆

### Каб пабудаваць дом...

(16. 10. 56) Гэтымі днямі адбылася скліканая ЦК КПБ нарада, прысьвечаная жыльлёваму будаўніцтву ў гарадох рэспублікі.

З паведамленьнем аб ходзе будаўніцтва выступіў сакратар ЦК КПБ т. Абрасімаў. Тав. Абрасімаў адзначыў, што...:

У Менску і абласных цэнтрах усё адчуваецца востры недахоп жыльля... Шмат якія будаўнічыя арганізацыі сыстэматычна зрываюць тэрміны ўводу ў эксплятацыю жылых дамоў.

Іншыя гаварылі аб сур'ёзных недахопах у рабоце будаўнічых арганізацыяў. Кіраўнікі шмат якіх прадпрыемстваў і ўстановаў ня хочуць весьці будаўніцтва жыльля гаспадарскім спосабам. У гэтай важнай і вялікай справе валакіта й бюракратызм. Каб атрымаць дзялянку зямлі й крэдыт на будаўніцтва жылога дому, індывідуальнаму забудоўшчыку часта прыходзіцца пераадольваць нямала цяжкасьцяў. На 1-га кастрычніка толькі ў вабласных цэнтрах звыш тром тысячам індывідуальным забудоўшчыкам ня былі адведзеныя зямельныя дзялянкі...

☆

### Новыя хваласьпевы

(16. 10. 56) На працягу двух дзён у Магілеўскім абласным доме народнай творчасьці праходзіў сэмінар самадзейных кампазытараў і паэтаў вобласьці. Сябры Саюзу кампазытараў БССР прафэсар Аладаў і Анічкін, якія прыехалі для правядзеньня сэмінару, пазнаёміліся з творамі маладых кампазытараў і зрабілі адбор лепшых песьняў для рэспубліканскага й абласнога зборніка самадзейных кампазытараў, якія выйдуць з друку у гэтым годзе...

☆

### За заслужаны адпачынак трэба дзякаваць...

(16. 10. 56) Работнікі й службоўцы Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі праваджаюць на заслужаны адпачынак сваіх таварышаў па рабоце. Шмат год працавала ў Акадэміі Ганна Лукашэўская. Ёй ужо 56 год. Апошні час яна працавала дворнікам у Акадэміі.

— Я вельмі ўдзячная нашай партыі й роднаму ўраду, што яны праяўляюць такія вялікія клопаты аб нас, простых людзёх, — гаворыць Лукашэўская...

### Бульба

(18. 10. 56) Дзяржаўны плян нарыхтовак бульбы ў гандлёвай сетцы выказаны на 10 кастрычніка на 58,4%. На 15 кастрычніка на склады Мінплодагароднінагандлю было прывезена толькі 26 493 тон бульбы — 53% да пляну.

... Вялікая колькасьць бульбы назьбіралася на пагрузачных пляцоўках розных чыгуначных станцыяў і ня вывозіцца з-за нястачы вагонаў... Гэткія адносіны да транспартаваньня бульбы могуць зьвесьці на нішто намаганьні хлеbabaroбаў, якія вырасьцілі сёлета высокі ўраджай гэтае культуры...

Паасобныя старшыні калгасаў, імкнучыся хутчэй вывезьці на дзяржаўныя склады патрэбную колькасьць бульбы, зусім не зьвяртаюць увагі на якасьць яе. Нядаўна, прыкладам, калгас імя Мясьнікова, Менскага раёну, даставіў на склад партыю бульбы, годнасьць якое не перавышае 50%... Нізкай якасьці бульба і іншых калгасаў...

☆

### Далоў цемнату...

(18. 10. 56) З пачатку году на хвабрыках і заводах, у калгасах і МТС Віцебскае вобласьці прачытана каля 2-х тысяч лекцыяў на пытаньні эканомікі, тэхнічнага прагрэсу, культурнага будаўніцтва...

☆

### Цаліна... ў Беларусі

(18. 10. 56) Беларускім дзяржаўным выдавецтвам выпушчана кніга Скарапанава, Розэнблюма і Ванькевіча «Цалінныя й абложныя землі БССР і іх асваеньне».

У разьдзеле «Крытыка і бібліяграфія» газэта «Зьвязда» зьмяшчае рэцэнзію на гэтую кнігу. Уяўленьне аб магчымасьцях расшырэньня пасеўных плошчаў Беларусі, гаворыцца ў рэцэнзіі, даюць такія лічбы. У рэспубліцы ёсьць звыш 300 тысяч гэктараў абложных зямель, каля 500 тысяч гэктараў хмызьняку, 45 тысяч гэктараў высекаў і згараў ды больш за 200 тысяч гэктараў асушаных, але яшчэ неасвоеных балотных земляў...

**Юрка Віцьбіч** 3)

# «Кепска каля Віцебска, а ля Воршы 'шчэ горшы

Першым помнікам хрысьціянскае старадаўніны Воршы, які перахаваўся да нашых дзён, ёсьць старажытнае Варшанскае Эвангельле, напісанае на пэргаменце ў 13 стагодзьдзі. Надзвычай характэрна для лёсу нашых кнігаў тое, што яго знайшлі на вуліцы паміж іншых кніжок, выкінутых у 1812 г. Француаамі з будынку Смаленскае духоўнае сэмінарыі. Пазьней у дакумантах 15 стагодзьдзя прыгадваюцца тутэйшыя Мікалаеўская і Юр'яўская цэрквы, ад якіх не захавалася аніякага сьледу і навет невядома, дзе яны знаходзіліся. У 1627 г. на рэчцы Куцеінкі Багдан Статкевіч-Заверскі закладае Варшанскі Куцеінскі мужчынскі манастыр. Праз тры гады ён разам з сваёй маткай Алёнай з дому Агінскіх будуе там-жа паблізу жаноцкі манастыр. Першы манастыр ня ў стане амінуць ні адзін добрасумленны гісторык Беларусі, бо зь ягонае друкарні выйшла шмат кніжак, а паміж імі ў 1653 г. другое выданьне «Лексікону» Памвы Бярынды, у прадмове да якога адзначалася, што ён «патрэбны і пажытачны многім». Ён ня пройдзе паўз таго, што пад уплывам высокамастацкіх гравюраў Куцеінскае друкарні ў беларускіх друкарнях увогуле адбыўся пераход ад маляўнічага прынцыпу да графічнага. Ён падкрэсьліць тое, што ў іконах Куцеінскае друкарні наўсуперак правілам іканаграфіі адбіліся беларускія краявіды і нацыянальная вопратка. Ён не аміне таксама і нашага культурнага дзеяча ігумена Ёіля Труцэвіча, які ў сувязі зь невядомымі дагэтуль прычынамі на другі год пасьля выданьня «Лексікону» пераяжджае разам з друкарняй у Маскву. Аднак варта прыгадаць, што дагэтуль Расейцы рабуюць ня толькі культурныя рэчавыя каштоўнасьці падбітых імі народаў, але вывозяць іхніх культурных дзеячоў і выдатных майстроў, прымушаючы працаваць на сябе. У гэтым сэньсе ігумен-друкар Труцэвіч нічым ня розьніцца ад прыгаданых у тагачасных перапісных кнігах Масквы аружэйніка Максіма Міхайлава з Копысю, рэжчыка Кліма Міхайлава з Шклова, Якуба Іванава зь Віцебску, Андрэя Фёдарава з Воршы — знанкага скульптара і рэжчыка па дрэву. Разам з тым зусім ня выпадкова на чале шматлікіх манастыроў стаўся, як відаць з прывілеяў і граматаў Рэчы Паспалітае Куцеінскі манастыр, набыўшы навет назоў «Беларускае Лаўры». Паказальна, што ягоны суворы манастырскі статут нагадвае статут Кіева-Пячорскае Лаўры, якая самы свой назоў дастала ад вялікіх Дальніх і Блізкіх пячораў, выкапаных манахамі. А калі яшчэ ўзяць пад увагу, што за часы слыннага мітрапаліта Пётры Магілы тут было 200 манахаў, якія, паводля летапісу, «подражали в теле житию ангельскому» пераймалі жыцьцё анельскае), дык магчыма супадае з праўдай, ёсьць імавернае прыпушчэньне, што яны капалі гэтую пячору.

Калі спакідаючы сярэднявечча, я вылязаў праз нару зь пячоры, дык адразу вычуў савецкую рэчаіснасьць. Справа навет ня ў тым, што па Дняпры з Воршы да Дуброўны, выконваючы свой плян ледзь-ледзь цягнуў супраць вады вялікую баржу дробненькі параходзік пад назовам «Ільліч» і ўвесь ад натугі ахутаны парай, здавалася, вось-вось выбухне. «Ільліча» я заўважыў пазьней, а сьпярша сяброў экспэдыцыі, што, сустрэўшы мяне, як свайго збаўцу, крычэлі:

— Пакажэце ім хутчэй свой дакумант, што мы маем права на вокамерныя пляны і фотаздымкі, якія вы запрапанавалі нам зрабіць! Яны пагражаюць нам арыштам! Тады толькі я заўважыў каля іх людзей з тых самых лодкаў, якія бачыў залязаючы ў пячору. Хоць я адразу й паказаў ім адмысловую паперку, але дастаў ад аднаго зь іх даволі зьедлівую і проста, як для савецкага жыцьця, небясьпечную вымову:

— А чаму вы ня пытаецеся пра нашыя дакуманты? Пэўне вам не стае савецкае пільнасьці? Абыдзёншчына вас заядае? Можа спадзяецеся, што за ўсім падазроным мае сачыць вылучна «НКВД», а ня кажны чэсны грамадзянін Савецкага Саюзу? Не пасьпеў я адказаць, што ня лічу іх за падазроных, а таму іхнія дакуманты мяне ня цікавяць, як мне тыцнулі іншую паперку, паводля якое людзям з шастамі дазвалялася дасьледваць дно Дняпра, для пабудовы ў гэтым месцы празь яго маста.

Тагды ў верасьні 1939 г. я знаходзіўся ў варшанскай пячоры ня больш за дзесяць хвілінаў. Толькі празь якія тыдзень-два мне пачало прыгадвацца, што ў часе ейнага дасьледваньня ад майго руху там-сям зь пячорных сьценаў звальваліся паасобныя пяшчынкі, а часам навет пачыналі цурчэць, як маленькі вадаспад. І пазьней у падсавецкія нялюдзкія ночы я ўва сьне кашмарыў. Мне здавалася, што вялікі дуб з пашкоджанай пяруном вяршалінай ня ўстрымае больш сваім карэньням тысячапудовы зямельны цяжар, а той вось-вось абваліцца і жыўцом пахавае, раздушыць.

Два гістарычныя помнікі спакінула ў Воршы Расейская імпэрыя — акопы Паўночнае вайны і верставы або гэтак званы Кацярынінскі слуп 18 стагодзьдзя. У часе Паўночнае вайны, у 1706 г. Пётра Першы наведаў Воршу і загадаў зрабіць вайсковае ўмацаваньне, каб перашкодзіць магчымай пераправе Швэдаў праз Дняпро. З таго часу бліжэйшы завулак дагэтуль мае назоў Лягернага, а паміж ім і ракой захаваліся акопы, якія тады абмяжоўвалі сабой вялікі трохкутны пляц, але паступова Дняпро падмыў ягоны адзін бок. Цяпер трохкутнік уяўляе зь сябе луг, які ў 1939 г. арандавала ў гаркамгасу арцель біндзюжнікаў, а ў часе тае вайны яго ахоўваў батальлён незабытнага для Беларусаў капітана Салаўёва. Гэты капітан, цалкам годны свайго імпэратара, дае поўнае ўяўленьне аб трагэдыйнасьці ўсхваленае Расейцамі Паўночнае вайны для беларускага народу.

28 верасьня 1708 г. капітан Салаўёў, выконваючы асабісты загад Пётры Першага, з усіх бакоў падпаліў Віцебск. Паводля расейскіх гісторыкаў, гэтая кара зусім зразумелая, бо віцебляне даслалі швэцкаму каралю Карлу Дванаццатаму вялікую для таго часу суму ў 7 тысячаў талераў. Аднак яны, віцебляне, што сьвядома апушчаюць тыя-ж гісторыкі, зьяўляліся тады падданымі не Расейскае імпэрыі, а Рэчы Паспалітае, а значыцца аніякіх абавязкаў перад першай ня мелі. Нарэшце пасьля таго, як вышэйадзначаныя казённыя гісторыкі шчыра адзначаюць:

«Пётра Першы, не жадаючы, каб Швэды ў Магілёве знайшлі сабе належны прытулак і якую-колечы іншую карысьць, загадаў сваім татарскаму і калмыцкаму палком зьнішчыць горад, што тыя й выканалі 8 верасьня 1708 г.».

— больш чым верагодна, што з тае-ж прычыны спалены й Віцебск. Асаблівую пікантнасьць набываюць пасьля гэтага для нас Беларусаў словы «вялікага настаўніка і правадыра міжнароднага пралетарыяту» Карла Маркса:

«Пётра Першы захапіў тое, што зьяўлялася абсалютна неабходным для прагрэсу ягонае краіны».

І хіба падпалы Пётры Першага, якія ня мінулі й Воршы, ня супадаюць, падкрэсьліваючы сабой крэўнае сваяцтва Расейцаў усіх колераў, із загадам 3 ліпеня 1941 г. «найвялікшага правадыра ўсіх часоў» Сталіна аб «голай зямлі»?

# Беларуская гімназія ў Наваградку

**(Успаміны)**

**(Працяг з папярэдніх нумароў)**

2-га ліпеня 1929 г. адбылася мая прамоцыя на унівэрсытэце Карла 4-га ў Празе Чэскай. Зь вялікаю радасьцю ды ўдзячнасьцю пакінуў я ўнівэрсытэт, але неўзабаве радасьць маю замяніў смутак, бо трэба было, як нявольніку, выбіраць куток для далейшага жыцьця й працы. Былі дзьве рэальныя магчымасьці: вяртацца дамоў у Польшчу, зь якое я ўпотай перайшоў у Чэхію, або аставацца ў Чэхіі. Цяга да роднага кута была перавагаю да павароту на Бацькаўшчыну, не зважаючы на тое, што мне трэба было стаць перад судом за нелегальны пераход граніцы. Польскі кансулят у Празе пагадзіўся выдаць мне часовы пашпарт на пераезд граніцы ў Польшчу з адзнакай, што я буду суджаны ў краю. Праз пару тыдняў я быў гатовы да ад'езду. Сябры мае правялі мяне на станцыю й я пакінуў Злату Прагу.

Гэтак як і пасьля першай сусьветнай вайны, у якой прышлося браць удзел, мне суджана было другі раз вяртацца ў родны край. Будучыня мая ў той час была нявыразная. Чэскі дыплём не даваў мне ў Польшчы ніякага права заняць адпаведнае становішча без настрыфікацыі яго. Бацькаўшчына, сям'я й родныя былі адзінаю пацехаю. Няволя роднага краю, як ніколі, адчувалася на кожным кроку, тым больш, што, гэта быў зусім нядаўні час ад разгрому польскаю ўладаю Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Сотні Беларусаў сядзела яшчэ ў польскіх турмах, а беларускае насельніцтва застрашвалася й каралася за ўсякія прыдзірлівыя справы паліцэйскімі пратаколамі. Як-жа выразна кідалася мне ў вочы розьніца ў ролі чэскага паліцэйскага й паліцэйскага польскага. Першы зьяўляўся абаронцаю й дарадчікам свайму народу пры выкананьні сваіх абавязкаў, а другі — прыдзірлівым эгзэкутарам Беларуса. Дух дэмакратычнага чэскага ладу выразна адрозьніваўся ад духа польскае паліцэйшчыны. Пры такой сытуацыі ня было ніякае надзеі на якуюсь працу паза невялікаю бацькаўскаю гаспадаркаю разам з сваім братам. Аднак лёс вырашыў іначай. Неспадзеўкі прыехаў да мяне настаўнік Беларускае Гімназіі ў Наваградку М. Чатырка, які запрасіў мяне на становішча настаўніка гэтае гімназіі. Зь першага верасьня 1929 г. я пачаў настаўніцкую працу й адначасна стаў кіраўніком хлапецкае бурсы гімназіі. Ад гэтага часу суджана было мне разам з другімі настаўнікамі гімназіі й яе апякунамі перажыць усе мамэнты ў жыцьці гімназіі аж да яе ліквідацыі польскаю ўладаю.

Дырэкцыя гімназіі перасылала маю просьбу да Віленскае Кураторыі аб зацьверджаньні мяне настаўнікам гімназіі. Тры гады высылалася такая просьба з усё новымі матывамі й тры гады Кураторыя не зацьверджала мяне. Нарэшце ў 1931—32 школьным годзе начальнік пэрсанальнага аддзелу Кураторыі Глухоўскі, пасьля візытацыі мае лекцыі, сказаў мне, апошні раз таляруецца маё незацьверджанае настаўніцтва й параіў складаць эгзамены пры польскім унівэрсытэце. Іншага выхаду ня было, і я ўвясною 1932 г. у працягу двух месяцаў злажыў усе прыпісаныя пісьмовыя й вусныя спэцыяльныя эгзамены разам з палянісцкаю ў Варшаўскім унівэрсытэце, а ўвосені гэтага году пэдагагічны эгзамен у Віленскім унівэрсытэце. Гэтыя ўнівэрсытэты й выдалі мне дыплём з правам навучаньня ў сярэдніх школах з польскаю выкладовою моваю.

На пачатку 1929—30 школьнага году на становішча дырэктара гімназіі быў прызначаны Я. Цеханоўскі. Пэдагагічная Рада складалася пераважна з настаўнікаў, што мелі доўгую школьную практыку. Да іх належалі М. Чатырка, П. Скрабец, (мае настаўнікі яшчэ перад першаю сусьветнаю вайною), А. Данілевіч і сьв. п. М. Мілоў. Да пэдагагічнага пэрсаналу належалі сьвятары Б. Бабкоўскі й М. Гарбацэвіч — выкладчыкі рэлігіі, Б. Зенькевіч — выкладчык нямецкае мовы, настаўнік пяяньня й музыкі, З. Барановская й Б. Аўгустын — настаўнікі паляністыкі. Назаўсёды асталося ў памяці ўражаньне ад першага паседжаньня пэдагагічнае рады, калі дырэктар Я. Цеханоўскі прывітаў мяне ад імя цэлае рады, як новага настаўніка. Гэта былі ўводзіны мае ў сьвятыню беларускага гімназіяльнага навучаньня й узгадаваньня моладзі.

Вынікі навучаньня ў гімназіі былі вельмі добрыя, аб чым сьветчылі частыя 100% выпускі матурыстых, ня гледзячы на тое, што ў «непанствовых» з правамі гімназіях матуральныя эгзамены былі пашыраныя й адбываліся ў прысутнасьці прадстаўніка Кураторыі. Зь гімназіі выходзілі матурыстыя сьведама адданыя беларускай справе. Сягоньня ёсьць ужо з гэтае моладзі шмат добрых барацьбітоў за волю свайго народу й навуковых працаўнікоў. Прыхільнікі нашае няволі калісь называлі гэтую моладзь камуністымі. Гэта была звыклая прапагандовая хлусьня. Гімназія выхоўвала моладзь ня толькі праз навуковыя дысцыпліны, але й праз мастацкую пазашкольную працу. Гімназіяльны хор і мастацкі гуртом пад кіраўніцтвам настаўніка музыкі й сьпеву кампазытара А. В. здабыў славу ўва ўсей Наваградчыне. У самым Наваградку вельмі часта адбываліся канцэрты й заўсёды вялікая заля кіна была перапоўненая. Музычныя творы настаўніка-кампазытара: «Старыя ліпы», «Касцы», «Я люблю густыя шумы», «Вось і паў ужо змрок», «Над возерам» і др. дзесяткі разоў выконваліся на сцэне й заўсёды магічна дзеялі на душу слухача й выклікалі буру воплескаў.

Вандраваньні мастацкага гуртка па Наваградчыне былі з рознымі прыгодамі й навет заграгражаючымі жыцьцю. Успомню адну з найбольшых.

Вясною 1930 г. мастацкі гурток з дырэктарам і некаторымі настаўнікамі выехаў у вадну з сыботаў у мястэчка Любчу й Негнявічы. Першы канцэрт адбыўся ў Любчы, а на другі дзень у нядзелю ўсе вандроўнікі прыехалі ў Негнявічы. Хор адсьпяваў Службу Божую ў царкве, а вечарам адбыўся цудоўны канцэрт. Пасьля канцэрту вечарам гурток выехаў на нанятым аўтабусе ў Наваградак. Я астаўся ў Негнявічах і заначаваў у сваей маткі. Неяк пад раніцу якісь-та чалавек разбудзіў нас і павядаміў аб тым, што аўта з вучнямі перавярнулася на Папялусе й што ёсьць забітыя. Брат мой хутка запрог каня й я зь ім, як мага, паехаў да месца катастрофы. Праз гадзіны паўтары, што выдаліся мне аж занадта доўгімі, мы былі на Папялусе, але тут было толькі пераверненае аўта. Даведаліся, што забітых няма, але было шмат пакалечаных. Едзем далей. Чуць сьвет мы ўжо ў Наваградку. Нас паінфармавалі, што некалькі вучняў раненыя, а некалькі напіліся бэнзіны. Мой брат быў ранены й знаходзіўся ў шпіталі. Дырэктар і настаўнікі былі толькі выкіненыя з аўта. Як-жа гэта сталася? Вось-жа хто ехаў зь Негнявічаў у Наваградак, дык добра ведае перад вёскаю Гарадэчна дзьве стромыя гары: Папялуху і Дубовую, што спускаюцца ў эразійную даліну вёскі Гарадэчна. На Папялусе (яна больш стромая) тармазы аўта сапсаваліся й яно што раз хутчэй пакацілася з гары й з ўсяго размаху ўвалілася ў канаву. Вынік катастрофы быў такі, што некалькі вучняў адзначыліся на ўсё жыцьцё шрамамі на твары ад сшытых ранаў, а некалькі — пашкодзілі нутраныя ворганы бэнзынаю.

Абітурыенты гімназіі, будучы ўжо студэнтамі, не пакідалі культурнае працы сярод беларускага насельніцтва ня толькі ў Наваградчыне, але й другіх кутках Беларусі. На гэтым месцы мушу зазначыць, што да такіх адданых беларускай справе належаў сьв. п. Пётра Першукевіч, студэнт Віленскага ўнівэрсытэту, які памёр ад сардэчнай хваробы. Магчыма, што катастрофа на Папялусе й вандраваньні пехатою прыскорылі яго сьмерць. Вечная яму памяць!

**А. Негнявіцкі**

**(Далей будзе)**

# Нафта ў сьвеце

Калі-б ня нафта Сярэдняга Ўсходу, дык суэзкі канфлікт ніколі ня меў-бы тае вайстрыні, якое ён быў дасягнуў. Паколькі ЗША могуць абыйсьціся нафтай сваёй ды прывознай з Паўдзённае Амэрыкі, дык Эўропа — гэты самы большы спажывец нафты — бяз прывозу яе, пераважна зь Сярэдняга Ўсходу, а значыць праз Суэзкі канал, пакуль-што абыйсьціся ня можа. Таму зусім зразумела, чаму нацыяналізацыя Суэзкага каналу выклікала такую войструю рэакцыю зацікаўленых дзяржаваў.

Мы лічым, што будзе карысным пазнаёміць нашых чытачоў наагул з разьмеркаваньнем нафты на сьвеце ды з памерамі яе эксплёатацыі.

Прайшло каля сто гадоў ад часу калі была адкрытая нафта, і сяньня нафтавая прамысловасьць займае вядучае месца у сьветавай эканоміцы. Яна цяпер — адна з галоўных крыніцаў энэргіі ды доўга будзе яшчэ такой у будучыні, пакуль яе не заменіць якая-небудзь іншая крыніца.

Залежы нафты на нашай плянэце разьмеркаваныя ня зусім раўнамерна. Кінуўшы вокам на геалягічную карту, мы бачым, што некаторыя вялізарныя тэрыторыі зусім бяз нафтавых палёў (нафтавыя палі — плошчы, дзе залягае й здабываецца нафта), як прыкладам Аўстралія, Цэнтральная Афрыка, Паўночная Эўропа. У іншых-жа мясцох зямное кулі яны займаюць вялікія плошчы. Сяньня найбагацейшыя нафтавыя пастаўшчыкі — гэта Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, паўдзённа-амэрыканскія краі й Сярэдні Ўсход.

Зь фізычнага гледзішча нафта — гэта вязкая вадкасьць пераважна цемнавата-зялёнага ці чорнага колеру. Удзельная вага яе не перавышае 1 (вылучныя выпадкі — 1,08). Зь хімічнага гледзішча — гэта злучэньне вугляроду з вадародам, ці, ужываючы лацінскую тэрміналёгію, гідракарбюры. Мае нафта й невялікі працэнт серы, азоту й кісляроду.

Аб паўстаньні нафты шмат дыскутавалася й існавалі шматлікія тэорыі. Цяпер бальшыня навукоўцаў прытрымоўваецца тэорыі арганічнага фармаваньня нафты, хоць у лябараторных умовах была атрыманая нафта і неарганічным шляхам.

Залягае нафта ў зямлі на розных глыбінях і ў розных геалягічных пародах; гэта дазваляе дапушчаць, што фармаваньне яе адбывалася ў розныя геалягічныя часы.

Пошукі нафты геалёгамі вядуцца рознымі шляхамі. Перш за ўсё рабіцца геалягічнае здыманьне мясцовасьці, вывучаецца стратыграфія (якая паслугоўваецца ў першую чаргу палеанталягічнымі й петраграфічнымі дадзенымі) ды асабліва тэктоніка. Устаноўлена, што некаторыя тэктанічныя структуры ёсьць асабліва характэрнымі для прысутнасьці нафты. Прыкладам, залежы солі купаламі (г. зв. саляная тэктоніка) — пэрспэктыўныя для нафты. Па геалягічнай здымцы праводзіцца магнэтычная ці сэйсмічная разьведка, і, у выпадку ўстанаўленьня магчымасьцяў прысутнасьці нафты, вядуцца бураваньні.

Ніжэй падаём кароткія дадзеныя аб важнейшых нафтавых палёх.

**ЗША.** Найстарэйшымі паводля здабываньня нафты ёсьць палі Апаляхскія, якія займаюць плошчу менш-больш 800 на 250 кілямэтраў. Здабываецца нафта ў штатах: Нью Ёрк, Пэнсыльвэнія, Зах. Вірджынія, Огайо, Кентакі, Тэнэзэ аж да мяжы Алябамы. Найбагацейшыя-ж промыслы нафты ЗША знаходзяцца ў штатах Канзас, Оклягома, Тэксас. Шмат здабываецца нафты ў Новай Мэксыцы, Місуры, Арканзасе, Люізіане, Мічыгане, Ільлінойсе, а гэтаксама ў раёне Скалістых Гораў. Значныя нафтавыя промыслы знаходзяцца ў Каліфорніі на ўзьбярэжжы Ціхага акіяну ды між узьбярэжнымі гарамі й градой Сьера-Нэвада. Прадукцыя нафты ЗША ў 1954 г. дасягнула 338 міліёнаў тонаў.

**Канада.** Найболей нафты здабываецца ў заходніх правінцыях (Альбэрта), у правінцыях Онтарыё ды ў некаторых усходніх правінцыях. Прадукцыя ў 1954 г. — 13 міл. тонаў.

**Мэксыка.** Здабываецца нафта пераважна на ўсходнім узьбярэжжы. Прадукцыя 1954 г. — 12 міл. тонаў.

**Паўдзённая Амэрыка.** Вельмі буйныя нафтавыя палі цягнуцца па абодвух баках Андаў ад Вэнэцуэлі аж да Вогненай Зямлі. Найбольш нафты здабываецца ў Вэнэцуэлі, менш у Калюмбіі, Эквадоры, Пэру, Балівіі, Аргэнтыне й на Антыльскіх абтоках. У сувязі з апошнім суэзкім крызысам, плянуецца, а часткова ўжо прыступлена да пашырэньня здабываньня нафты ў Вэнэцуэлі. Прадукцыя Паўдзённае Амэрыкі ў 1954 г. — 113,6 міл. тонаў.

**Блізкі й Сярэдні Ўсход.** Блізкі Ўсход у нафтавай прамысловасьці грае невялікую ролю. Нязначныя залежы нафты знаходзяцца ў Турцыі й на Кіпры.

Найважнейшыя нафтавыя палі Азіі знаходзяцца на сярэднім Усходзе. Выдзяляюцца там дзьве зоны: адна — у падгор'ях Іраку і ў паўдзённа-заходнім Іране, другая — палі Арабскага паўабтоку. Найбольш нафты здабываецца ў Іране. На Сярэднім Усходзе і асабліва на Арабскім паўабтоку ад 1939 году было адкрыта вельмі шмат новых нафтавых пакладаў. У 1954 г. прадукцыя нафты на Блізкім і Сярэднім Усходзе дасягнула 142 міл. тонаў, што складала 20% сусьветнай прадукцыі.

**Далёкі Ўсход.** На ўсход ад Ірану нафтавая здабыча ня грае ў сусьветным маштабе вялікае ролі. Найбольшыя промыслы знаходзяцца ў Індыі й Бірме; меншая — на Гвінэі, Яве, Борнэо, Цэлебес. Здабываецца нафта таксама і ў Японіі, але дэбіт яе ня вельмі значны. У Кітаі вяліся й вядуцца інтэнсыўныя пошукі; ёсьць пэўныя прыкметы нафтаноснасьці некаторых раёнаў, але нафта яшчэ не здабываецца. Прадукцыя Далёкага ўсходу ў 1953 г. — 16,65 міл. тонаў.

**Аўстралія й Новая Гвінэя.** Вядуцца дэталёвыя геалягічныя здымкі. Ёсьць прыкметы нафтаноснасьці, але эксплёатацыяў яшчэ няма.

**Афрыка.** Буйныя промыслы ў Эгіпце й дэпрэсіі Суэзкага заліву. Досыць значныя эксплёатацыі знаходзяцца ў французскай Паўночнай і Экватарыяльнай Афрыцы ды на Мадагаскары. Прадукцыя ў 1953 г. — 2,59 міл. тонаў.

**Заходняя Нямеччына.** Нафта здабываецца ў 3-х раёнах: Паўночна-заходняя Нямеччына, Рэйнскі грэбень і прадгор'е Альпаў. Прадукцыя у 1949 г. — менш-больш 1 міл. тонаў.

**Францыя.** Да 1939 году былі ведамыя толькі два басэйны здабываньня нафты: Пэхельброн і на ўсходніх сьхілах Чорных гораў. Пасьля вайны адкрытыя нафтавыя залежы і ў іншых мясцовасьцях.

**Галяндыя.** Пошукі вядуцца ад 20-ых гадоў. У другую сусьветную вайну былі

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

У Воршы, там дзе Савецкая вуліца пераходзіць у Шклоўскі шлях, насупраць колішняе разьніцы, якая, зусім зьмізарнеўшы пры саветах, тым ня менш займела назоў — Мясакамбіната, знаходзіцца спакінуты 18 стагодзьдзем цагляны абэліск. Гэта адзін з двух-трох дзесяткаў верставых, гэтак званых Кацярынінскіх слупоў, што захаваліся на Беларусі. Цікава, што тагачасная вярста, вядомая пад назовам Каломенскае, складалася не з 500 сажанёў, як пазьней, а з 700. Дарэчы, і цяпер Расейцы высокага чалавека называюць Каломенскай вярстой, а ў нашым фальклёры яго мянуюць Бабінавіцкай вярстой, што паходзіць ад мястэчка Смаленскае Брамы Бабінавічаў, дзе гэтыя слупы былі. З г. зв. Кацярынінскага слупу ў Воршы аблез ранейшы тынк, зьверху зьнікла сьпічастае кап'ё, у ягоным падмурку быў значны выбай, і акурат каля яго хтосьці, браўшы пясок, спакінуў вялікую яму.

Пасьля падзелу Рэчы Паспалітае, за часы расейскае царыцы Кацярыны Другое, на акупаванай гэткім чынам Беларусі распачалося будаўніцтва паштовых шляхоў. Гэтыя шляхі — шырокія, абсаджаныя абапал бярозамі, чым нагадвалі прысады, з цаглянымі верставымі слупамі зьяўляліся тады вузорам для ўсяе Расейскае імпэрыі. Тагочасны падарожнік Расеец Дабрынін, захапляючыся ў сваіх мэмуарах выгодай і прыгажосьцю гэтых шляхоў, робіць выснаў:

«. . . я стаўся нагэтулькі дзіўным, што навет і не адразу памысьліў, што ўсё намі бачанае ёсьць плод дзейнасьці і высокаасьвечанага густу галоўнага расейскага начальніка графа Чарнышова».

Аднак прычым тут намесьнік царыцы, генэрал-губэрнатар «Белорусии» граф Чарнышоў, як і сама царыца. Будаваў іх, гацячы сваймі касьцьмі балаты, прыгнечаны і падбіты беларускі народ, які яшчэ ў часы свае дзяржаўнае незалежнасьці пракладаў праз пушчы Альгердавыя і Вітавыя шляхі. І пэўне-ж гэтыя шляхі зьяўляліся вузорнымі, калі іхнія сьляды захаваліся дагэтуль.

Паблізу ад верставога слупа 18 стагодзьдзя, або там, дзе Савецкая вуліца яшчэ ня перайшла ў Шклоўскі шлях, знаходзяцца два старадаўніх паруганых будынкі колішняга францішканскага манастыра — былое агульнажыцьце манахаў і касьцёл. Навет звонку яны здаюцца нязвычайнымі, і гэтая нязвычайнасьць яшчэ больш выпукляецца пасьля азнаямленьня з іхняй гісторыяй.

На працягу 17 і 18 стагодзьдзяў у праваслаўнай Воршы паступова ўзьнікае шмат каталіцкіх манастыроў. У 1604 г. зьявіліся ў ёй езуіты, у 1612 г. францішканы, у 1650 г. — бэрнардыны, у 1714 г. — трынітары, у 1774 г. — базыльяне, акрамя таго тут паўсталі два жаночыя манастыры-базыльянскі і марыявіцкі. Ужо ў 1608 г. езуіты, як адзначае, спасылаючыся на гістарычныя крыніцы вялікі Беларус Пётра Крэчаўскі ў сваёй працы «Гісторыя беларускай кнігі», адабралі ў жыхароў Воршы і спалілі ўсе кнігі, што на езуіцкі часта-густа вельмі абмежаваны пагляд, зьяўляліся варожымі для каталіцызму. Па сутнасьці ў гэтым сэньсе езуіты нічым рашуча ня розьняцца ад маскоўскіх стральцоў, якія ў 1656 г. на плошчы тае-ж Воршы, выканалі загад цара Аляксея Міхайлавіча:

«Книги Литовской печати собирати и на пожарах сжечь, чтобы ересть и смута в мире не была»

— або ў перакладзе на нашую мову —

Кніжкі Беларускага друку зьбіраць і на вогнішчах спаліць, каб іхнія ерась і бунтаніна ў сьвеце ня былі.

І цяжка сказаць, хто больш тады зьнішчыў кніжак накшталт «Лексікону» Памвы Бярынды — ці езуіты, ці стральцы.

Мне прыгадваецца таксама пагалоска, што калі бальшавікі прыстасоўвалі ў Воршы праваслаўны сабор пад свой «Дом Культуры», дык знайшлі ў ягоных таўшчэзных сьценах труны трынітараў. Касьцякі, на якіх захаваліся рэшткі сутанаў, мелі на грудзёх крыж, а пры боку меч. Сьпярша я ня даў гэтаму веры, але, трапіўшы ў Воршу, пагаварыўшы там з жывымі сьветкамі гэтае знаходкі, пабачыўшы адмысловыя фотаздымкі, пераканаўся ў тым, што пагалоска адпавядае праўдзе. Навет калі прыпусьціць, што гэты меч зьяўляўся толькі сымбалічным, дык усё-ж аніяк не супадае ён з хрысьціянскай сымбалічнасьцю крыжа. Таму, падыходзячы да былых францішканскіх будынкаў, пабудаваных у 1680 г. коштам шляхціца Калкоўскага, я старэнна адганяў ад сябе прадузяты пагляд, на які ня мае права ні адзін навуковец.

Няпрыемнае ўражаньне спакідае вонкавы выгляд былога францішканскага будынку. І справа тут палягае ня ў тым, што гэты цагляны двухпавярховы будынак, пабудаваны бяз малага 300 год таму, але ў поўнай адсутнасьці ўсякага дагляду за ім. Толькі там-сям захаваўся на ягоных сьценах тынк, і плямы на ім нагадываюць рабізну спакінутую воспай на твары. Цалком захаваліся вапенныя швы і навет ад часу здаваліся акамянелымі, за тое цэгла паміж імі абы-дзе часткова выпятрылася ды вывалілася, а таму самае кладзеньне сталася падобным да пчаліных сотаў. Яшчэ больш змрочны выгляд усяму будынку надавалі таўшчэзныя краты ў ягоных брудных вокнах. Увогуле вонкавы выгляд будынку бяз словаў сьветчыў аб тым, што ягоным сучасным гаспадаром зьяўляецца — гаркамгас — аддзел камунальнае гаспадаркі гарсавету.

Калі будынак меў два паверхі над зямлёй, дык таксама два сутарэньні пад ёй. Мы апушчаемся ў глыбейшае — бяз вокнаў, із сьценамі таўшчынёй больш за 3 мэтраў. Паветра дасягала сюды толькі праз адтуліны, што, пачынаючыся ад падлогі, мелі ў вышыню 5 цэнтымэтраў, у шырыню — 10 і пад кутом у 45 градусаў, ішлі ў сьценнай таўшчыні дагары, маючы каля 5 мэтраў даўжыні. Толькі лёгшы на вільготную падлогу можна было заўважыць, недзе здавалася страшэнна далёка, палоску дзённага сьвятла. Аднак пабачыўшы ў гэтым ніжэйшым сутарэньні крукі з рэшткамі іржавых ланцугоў, мы пераканаліся, што тыя невядомыя Беларусы, якія пакутвалі тут, толькі зводдаль бачылі адсьвет гэтага дзённага сьвятла на падлозе. Прыпушчэньне некаторых расейскіх гісторыкаў, нібы тут каталікі мардавалі праваслаўных, не адпавядае праўдзе хіба ўжо таму, што францішканскі манаскі ордэн, паводля самага свайго статуту, не зьяўляўся інквізыцыйным. За тое на падставе архіўных дадзеных, як і пасьля гутаркаў зь сьветкамі, экспэдыцыя ўдакладніла, што калі ў 1863 г. царызм скасаваў манастыр, дык у гэтым будынку зь цягам часу зьмяшчаліся — сьпярша махорачная хвабрыка, потым з 1903 і па 1928 гады царская і бальшавіцкая турма і нарэшце майстэрні Белдзяржтрансу ў вышэйшым сутарэньні, а ў двух паверхах кватэры работнікаў.

Прыстасаваньне гэтага старога даўняга будынку пад турму не зьяўляецца чымсьці выпадковым. У пяці кілямэтрах ад Полацку на высьпе Дзьвіны знаходзіцца Струня, дзе ўлетку жылі вуніяцкія архіяпіскапы, зь якіх Смагаржэўскі пабудаваў тут царкву, а вакол яе мур з 12 капліцамі. Царызм прыстасаваў гэтую царкву пад жаноцкую турму, парадзіўшы такім чынам пашыраную ў Надзьвіньні прыказку: Цяжка, як у Струні. Таксама ў турмы перабудаваў ён і будынак замку ў Барысаве і палац Сапегі ў Старым Быхаве. І ўсе гэтыя турмы царызм адказаў бальшавізму.

**(Далей будзе)**

